# Нацыя і Рэлігія

Ня гледзячы на тое, што нацыянальная сьведамасьць ужо вельмі значна пашырылася сярод беларусаў, усё-ж такі закранутая намі тэма, нажаль, зьяўляецца яшчэ актуальнай. Знойдуцца на Беларусі яшчэ такія закуткі, дзе нацыянальнасьць азначаецца імглістым словам «тутэйшы», або паводле веравызнаньня: калі праваслаўны, дык «рускі», а калі каталік—дык «польскі».

Няма дзіва, пакутуе тут праца нашых ворагаў, якія на працягу многіх вякоў усялякімі спосабамі і сродкамі стараліся вынішчыць беларусоў, як нацыю, а беларускую спадчыну падзяліць паміж сабой. Паглянем, як гэта сталася, скуль у нас узяліся «польскія» і «рускія»?

Вось-жа на зараньні нашай гісторыі ўсе як ёсьць беларусы мелі сваю ўласную крывіцкую веру. Верылі ў паганскіх, але сваіх уласных багоў, у іх чэсьць сьвяткавалі сьвяты з вельмі прыгожымі абрадамі. Рэшткі гэтых абрадаў захаваліся і дагэтуль, як нацыянальныя. Да прыкладу «дзяды», купальскія і запусныя абрады й іншыя.

Але калі вера ў паганскіх багоў сталася недарэчнай, а беларусы пачалі мець стычнасьць з больш асьвечанымі народамі, у Крывіі пачало распаўсюджвацца хрысьціянства, задоўга яшчэ перад афіцыяльным прыняцьцем хрысьціянскай веры і заснаваньнем Полацкае эпархіі ў 1005 годзе. Было гэта тады, калі хрысьціяне мелі яшчэ супольную царкву, бо падзел царквы на каталіцкую (заходнюю) і праваслаўную (усходнюю) адбыўся, як вядома, у 1054 годзе. Падзел царквы не адбіўся на еднасьці беларускага народу, бо беларусы першапачаткава ўсе належалі да праваслаўнай царквы.

Найдаўжэй пратрывала паганства на абшарах, прылягаўшых да Жмудзі й Яцьвежы, бо аж да 1386 году. У гэтым годзе вялікі князь Ягайла Альгердавіч, ня гледзячы на тое, што ягоныя бацькі былі праваслаўнымі, для палітычна-дынастычных мэтаў прыняў каталіцтва і ў гэтай веры ахрысьціў тую частку сваіх падданых, якая трывала яшчэ ў паганстве. Але некаторая частка беларускіх баяраў, хочучы насьледаваньнем дагадзіць свайму ўладару, пачала пераходзіць на каталіцтва.

Такім парадкам паўстаў сярод беларусоў падзел на каталікоў і праваслаўных. Каталіцтва пашыралася пераважна на Захадзе сярод баярства, але з часам пачало распаўсюджвацца і ўва ўсходняй Беларусі. Аднак, паміж беларусамі каталікамі і праваслаўнымі ня было ніякай розьніцы, апрача веры. Усе разам тварылі адзін народ і адну дзяржаву, у прыватным жыцьці і дзяржаўным карысталіся аднэй беларускай мовай, аднолькава любілі сваю Бацькаўшчыну і супольна баранілі яе ад ворагаў. Але і гэты падзел ня быў пажаданым, бо палякі пасьля Люблінскай вуніі, карыстаючы з сваіх уплываў у каталіцкай царкве, пачалі праводзіць палянізацыю каталіцкай часткі беларускага народу. Дзеля гэтага некаторыя беларускія дзяржаўныя дзеячы імкнуліся да аб'еднаньня праваслаўных і каталікоў у вадну вунійную царкву, каб разам мацней бараніцца ад чужацкіх уплываў. Такая вунія і адбылася ў Берасьці ў 1596 годзе, але ня выйшла яна на карысьць беларускага народу, наадварот, у чужых руках сталася яна прыладай да палянізацыі беларусоў ня толькі лацінска-рымскага, але і ўсходняга абраду.

Пратрывала яна да 1839 году і была скасована расейскім урадам пасьля прылучэньня Беларусі да Маскоўшчыны. Усе вуніяты павінны былі прылучыцца да праваслаўнай царквы. Некаторыя вунійна-царкоўныя дзеячы ахвотна ішлі ў праваслаўе, бо бачылі ў гэтым ратунак ад палянізацыі і дашчэнтнага нацыянальнага зьніштажэньня, але папалі з агня дый у полымя. Расейская праваслаўная царква пачала шалёную русыфікацыю. Беларусам вуніятам гаварылі, што яны цяпер «рускія», бо прынялі «рускую» веру.

Палякі цягнулі ў свой бок беларусоў-каталікоў і больш трывальшых вуніятаў, якія, як вагня, баяліся расейшчыны і расейскага праваслаўя. Ім гаварылі, што яны «польскія» бо каталіцтва, ня толькі лацінскае, але і ўсходняе, гэта «польская вера», а ад ненавіснай царскай расейшчыны выратуе іх толькі польшчына. Так паўсталі сярод нас «польскія» і «рускія» і «тутэйшыя».

Але калі ў першай палове XIX стагодзьдзя беларускі народ пачаў будзіцца да нацыянальнага адраджэньня, калі пачала пашырацца ў народзе нацыянальная сьведамасьць, стала ясным, што няма на нашай зямлі ані «польскіх» ані «рускіх», што ўсе мы, бяз розьніцы веравызнаньня, чыстакроўныя ад веку беларусы-крывічы. Усе мы дзеці аднаго народу, аднэй Маці-Беларусі. Падзялілі нас на «рускіх» і «польскіх» чужынцы для сваёй, ня нашай карысьці.

Таму, што гэты варожы падзел пачаўся ад царквы, нашым заданьнем зьяўляецца цяпер тварыць самастойную беларускую царкву, каб не дапусьціць да далейшае асыміляцыі нашага народу.

Нямецкая ўлада дала нам гэтую магчымасьць праз стварэньне Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі ў Менску. У выніку гэтага будзе напраўлена тая крыўда, якая чынілася праваслаўным беларусам.

**Ул. К—і.**

# 30 немцаў замучаны на сьмерць

**Варшаўскі марш сьмерці. Пачатак вялікага карнага працэсу перад Бромбэргскім Надзвычайным Судом.**

Бромбэргскі надзвычайны суд пачаў цяпер вялікі працэс супроць 38 палякоў, якія ў якасьці членаў ахоўваючае эскорты суправаджалі марш сьмерці нямецкіх грамадзян у Варшаву, Перад судом разгортваецца абраз тых жудасных зьдзекаў, сярод якіх у днёх пасьля выбуху вайны нямецкія грамадзяне выганяліся азьвярэлымі палякамі з іх заходня-прускай бацькаўшчыны. Большасьць іх была забрана на падставе пасьведак аб інтэрнаваньні. Яны мелі, такім чынам, права на тое, каб іх, як цывільных палонных, прызваіта трактавалі й дастаткова кармілі. Гэтага, само сабою зразумелага забавязаньня, кіпеўшыя злосьцю й нялюдзкія палякі ня споўнілі ні ў якой меры. Яны білі маршыруючых немцаў бічамі, гналі іх наперад ударамі прыкладаў і не давалі ім нічога есьці. 580 чалавек мусіла прыймаць удзел у гэтым жудасным паходзе і пераносіць найстрашнейшыя мукі. Зусім без падставы экскорта страляла з якіх-небудзь пятнаццаці мэтраў у ссыланых. 29 чалавек і адна жанчына ўпалі забітыя на зямлю. Трупы былі закапаны ў простай масавай магіле.

Абвінавачаныя палякі ня хочуць сягоньня, ясная рэч, усе гэтыя ганебныя чыны прызнаць за праўду. Аднак Брамбэргскі судовы працэс, які прыпушчальна патрывае некалькі тыдняў, адслоніць увесь абраз іх поўнага зьверства і прывядзе вінноўных да заслужанае кары.

# „Міністры“ уцякаюць

**Эміграцкія ўрады рыхтуюцца да пераезду ў ЗША.**

Лёнданскі карэспандэнт «Базлер Нахрíхтэн» адзначае сільнае стараньне сабраных у Лёндане эміграцкіх урадаў перасяліцца з брытанскае сталіцы ў Вашынгтон. Міністар замежных спраў» гальляндзкага эміграцкага ўраду, ван Клеффэнс, ужо мае быць у Вашынгтоне і ніхто ня ведае, ці ён калі-небудзь вернецца яшчэ ў Лёндан. Таксама й «міністар замежных спраў» чэскага эміграцкага ўраду мае знаходзіцца ў амэрыканскай сталіцы і прадоўжывае там свой водпуск з тыдня на тыдзень.

Частыя паездкі гэтых эміграцкіх урадаў, як паведамляе карэспандэнт, маюць глыбейшы сэнс, у кругох эмігрантаў пануе іменна тут і там перакананьне, што Англія ўсё больш і больш выціскаецца з сваіх першапачатковых пазыцыяў. «Адсюль арыентацыя на Вашынгтон, і адсюль навязаньне сувязі з толькі што прыступіўшым да вайны краем, які яшчэ не дакнёны так, як цяпер Англія».

# 450 паўдзённых амэрыканцаў на „чорнай дошцы“

**(Ад нашага прадстаўніка)**

Рузвэльт выдаў новы дадатак да «чорнага сьпіску» паўдзённа-амэрыканскіх фірмаў. 4500 іменьняў паўдзённа-амэрыканскіх гандлёвых дамоў і прыватных асобаў стаіць цяпер разам у гэтым шантажным сьпіску.

# Бразылія арыштоўвае японскіх дыпляматаў

**(Ад нашага прадстаўніка)**

Бразылійскі ўрад загадаў арыштаваць японскага амбасадара ў Рыо дэ Жанэйро, восем членаў пэрсаналу амбасадарства і ўсіх японскіх консуляў у Бразыліі. Памяшчэньне японскага амбасадарства занята войскам.

# Удзел Славаччыны

**Міністар Катлёс: «Нязначныя страты дзякуючы нямецкаму абучэньню».**

**(Ад уласнага прадстаўніка)**

Славацкі міністар абароны, гэнэрал Катлёс, адведаў 300 славацкіх жаўнераў, якія ізноў вярнуліся на сваю бацькаўшчыну. Шмат з іх было адзначана за іх адвагу на ўсходнім фронце. У прамове міністар падаў, што ад 22 чэрвеня да 1 сакавіка пала 271 славацкіх або нямецкіх (з Славаччыны) жаўнераў, загінула 51. Гэтыя нізкія цыфры, казаў Катлёс, зьяўляюцца вынікам новае ваеннае тактыкі, якую пераняла выдатным чынам славацкая армія ад нямецкіх інструктароў.

---

**24-III-42 пасьля цяжкой 4-ох гадовай хваробы памёр у веку 35 гадоў**

сьв. † пам.

## СЯРГЕЙ БОГУШ

**Є. п. Сяргей Богуш у часе акупацыі Зах. Беларусі палякамі прыймаў актыўны ўдзел у беларускім культурна-адраджэнскім жыцьці і за сваю нязломную волю барацьбы супроць паняволеньня Беларускага Народу быў прасьледаваны польскай адміністрацыяй.**

**Дня 25-III-1942 пахаваны на праваслаўных могілках у Беластоку пры суправаджэньні радні й шматлікіх прыяцеляў і сяброў-беларусаў.**

**Змагару за беларускую справу Вечная Памяць!**

**СЯБРЫ.**

---

# Аўстралія бачыць узросшую небясьпеку

**Новае японскае скупленьне флоту перад Новай Гвінэяй. Цяжкія страты аўстралійскага лятунства.**

Згодна з паведамленьнем ангельскага інфармацыйнага бюро, аўстралійскія разьведвальныя лятуны заўважылі перад Новай Гвінэяй новыя японскія скупленьні флоту. Акрамя таго павядомлена аб новых японскіх паветраных атаках на востраў, зробленых раніцай у аўторак.

У сувязі з японскімі высадкамі каля Салямауа і Ляэ ў афіцыяльным камунікаце з Канбэрры заяўляецца, што невядома, як вялікія маюць быць высадзіўшыеся варожыя аддзелы.. Праўдападобна, аднак, яны «значныя». Аўстралійскае лятунства, як падаў міністар авіяцыі Дрэкфорд, пры спробе перашкодзіць японскай высадцы на Новай Гвінэі пацярпела значныя страты. Падаецца пры гэтым, што пры Салямауі і Ляэ распалажаны вызначаныя лётнішчы. Дзякуючы здабыцьцю іх японцы перацялі нашалам дарогу ад іх дагэтулішняе базы Рабуль да Порт Морэсбі.

Японскія высадкі на Новай Гвінэі ўспрыймаюцца, як выразная пагроза для паўночна-аўстралійскіх берагоў. Японія пануе цяпер над водным шляхам паміж Новай Памэраніяй і Новай Гвінэяй, каторы творыць браму да архіпэлягу Бісмарка. «Унітэд Прэсс» падае па тэлеграфу з Мальбурну, што «у Аўстраліі пасьля апошніх японскіх высадак на Новую Гвінэю адчуваюць небясьпеку нападу яшчэ мацней, чым дасюль», тым больш, што Новая Гвінэя дагэтуль заўсёды лічылася як аўстралійская зямля.

---

**У папярэднім нумары «Новай Дарогі» праз карэктарскі недагляд у вершы М. Багдановіча «Зімой» укралася памылка: Замест «Пахаладзеўшыя стаяць» трэба чытаць «Пахаладзеўшыя дрыжаць».**

---



*Druck. Deutsche Druckerei, Bialystok.*